# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 39 (918) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 30 ВЕРАСНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.




*Кожны дзень паасобныя паветы паказвалі на выстаўцы мастацкую самадзейнасць. На здымку ўкраінскі калектыў з Галдапскага павету. (Да фотарэпартажа «Сельскагаспадарчая выстаўка», ст. 3)*

# ЖЫЦЦЁ, АДДАДЗЕНАЕ ЗМАГАННЮ

Вера Харужая нарадзілася ў Бабруйску 27 верасня 1903 года. Яе дзяцінства і вучоба ў гімназіі прайшлі ў Мазыры на Палессі. Калі дзяўчыне было ўсяго 15 год, яна пайшла настаўнічаць у вёску.

У 1920 годзе Вера Харужая ўступае ў рады Камуністычнага саюза моладзі і змагаецца супраць бандаў контррэвалюцыйнага генерала Булак-Балаховіча, які імкнуўся адрадзіць у Расіі і Беларусі панаванне буржуазіі і памешчыкаў. Праз год яна ўжо член Камуністычнай партыі Беларусі і пільна паглыбляе свае веды ў школе для партыйнага і савецкага актыву. Пасля заканчэння вучобы працуе ў Цэнтральным Камітэце Камсамола Беларусі і вядзе інтэнсіўную грамадскую дзейнасць, з'яўляецца прапагандыстам і агітатарам у адным з мінскіх дамоў моладзі для дзяцей, што страцілі бацькоў у часе першай сусветнай і грамадзянскай войнаў. Незвычайныя педагагічныя здольнасці Веры Харужай, не раз узданенныя на моладзь, ператваралі гэтых занядбаных выхаваўча элемент у дысцыплінаваных, з высокімі маральнымі якасцямі калектыў.

Але Веру Харужую не здавальняе дасягнутае. Яна прагна імкнецца туды, дзе разгортваецца крывавы бой працоўных супраць прыгнятальнікаў, дзе неабходны бязмежная адданасць справе партыі, асабісты гарт і адвага. Па яе ўласнай просьбе, Цэнтральны Камітэт КПБ у лютым 1924 года накіроўвае Веру Харужую на работу ў Камуністычную партыю Заходняй Беларусі і Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі.

Адразу пасля нелегальнага пераходу савецка-польскай граніцы Вера Харужая прыступае да актыўнай дзейнасці, за якую ёй на кожным кроку пагражаў арышт, жудасныя катаванні ў дэфензіве і шматгадовая турма. Але яна хутка вучыцца майстэрству працаваць у падполлі, удзельнічае ў нелегальных з'ездах і пленумах КПЗБ і КСМБ, піша палымяныя адозвы да працоўных Польшчы і Заходняй Беларусі, выступае на сходах рабочых і моладзі ў Вільне, Гродне, Беластоку, прабіраецца ў вёскі Гродзеншчыны і Беласточчыны, засноўвае там арганізацыі КСМ ЗБ.

Потым, ужо знаходзячыся ў турме ў Фардоне, у адным з лістоў так успамінае святкаванні Міжнароднага дня моладзі камсамольцамі Беластока ў лістападзе 1924 года:

„Час самай гарачай падрыхтоўкі — большая частка арганізацыі арыштавана, усюды нечуваныя здзекі і катаванні. Аднак камсамольцы, што засталіся на свабодзе, рвуцца на вуліцу. „У Міжнародны дзень моладзі мусіць адбыцца дэманстрацыя. Дакажам ім, што нас ні запалохаць, ні „ліквідаваць" нельга!" І нягледзячы на няспынныя арышты, адбываюцца масавыя сходы, падрыхтоўка ідзе поўнай парай. І раптам — новая атака. Разбіты ўжо не толькі партыя і КСМ, але і маладзёжныя секцыі ў прафесіянальных саюзах, прафесіянальныя саюзы. На свабодзе засталося ўсяго некалькі асоб, акружаных з усіх бакоў правакатарамі, шпіёнамі, паліцыяй. І ўсё ж не паддаліся. Роўна ў дзевяць гадзін вечара на ўсе яскрава асветленыя галоўныя вуліцы горада лінуў дождж КСМ-оўскіх лістовак".



*Вера Харужая. Фота з 1942 года.*

Вера Харужая была душой маладзёжнага камуністычнага руху ў Заходняй Беларусі, ёю захаплялася моладзь, любілі і шанавалі яе дарослыя.

Шпіёнам і паліцыі ўрэшце ўдалося высачыць сакратара КСМ ЗБ Веру Харужую і арыштаваць яе 15 верасня 1925 года ў Беластоку. Пасля катаванняў у дэфензіве на беластоцкіх Пятрашах пацягнуліся алавяныя гады побыту ў турмах Беластока, Брэста, Фардона. Ёй было тады ўсяго 22 гады, але яна не сышла з раз і назаўсёды абранага для сябе жыццёвага шляху, шляху бескампраміснага змагання. Суд у Брэсце на

(Працяг на стар. 4)

# ДЗЕЛЯ ЗДАРОЎЯ

Менавіта дзеля нашага здароўя партыя і ўрад ўстанавілі Нацыянальны фонд аховы здароўя, — значыць — НФАЗ. Ад першага студзеня 1973 года дзейнічаюць ваяводскія і паветовыя грамадскія камітэты, якія забяспечваюць арганізацыйную актыўнасць гэтага высакароднага мерапрыемства. У Беластоку Ваяводскі камітэт НФАЗ працуе пад кіраўніцтвам намесніка старшыні Прэзідыума ВРН, магістра інжынера Ежы Зентары. Асноўным заданнем гэтых камітэтаў і людзей, якія ў іх рамках праяўляюць сваю актыўнасць, з'яўляецца збор добраахвотных складчын, з якіх галоўным чынам утвараецца гэты фонд. Ваяводскі камітэт НФАЗ у Беластоку хацеў бы ў гэтым годзе накапіць на сваім рахунку 70 мільёнаў злотых. У тым ліку атрымаць ад сялян — 13 мільёнаў злотых, ад рабочых і служачых — 22 мільёны, ад працаўнікоў розных спулдзельняў — каля 2,5 мільёнаў. Рэшта планаванай сумы вывадзіцца з іншых крыніц, а перш за ўсё з даплат да цаны спіртных напіткаў.

25 мільёнаў злотых Ваяводскі камітэт НФАЗ абавязаны перадаць у распараджэнне цэнтральных улад. Гэта неабходна таму, што ў ахове здароўя часта немагчыма абмежавацца да аднаго паветy ці ваяводства. Для прыкладу: барацьба з ракам. У нашай краіне кожны год прыбывае звыш 60 тысяч новых пацыентаў з гэтай смяртэльнай хваробай. Тут адно ваяводства нічога не зробіць. Неабходна спалучыць намаганні самых выдатных спецыялістаў-анкалагаў. Таму прадбачылі пабудову на сродкі НФАЗ агульнапольскай медычна-даследчай анкалагічнай пляцоўкі, якая комплексна займалася б лячэннем і вывучэннем істоты гэтых пухлінных хвароб.

Другой у гэтым агульнадзяржаўным спіску асабліва небяспечных для грамадскасці хвароб з'яўляюцца хваробы сэрца, а перш за ўсё інфаркт (завал) сардэчнай мышцы. Па гэтай прычыне адыходзіць цяпер ад нас адна трэцяя частка ўсіх уміраючых. Тут таксама неабходна праводзіць складаныя доследы, каб ведаць, як ратаваць людзей перад гэтай грознай хваробай нашага часу.

Болей старанай лекарскай апекі патрабуюць старэйшыя, звыш 60-гадовыя людзі, якія складаюць у нас цяпер 15 працэнтаў усяго насельніцтва. З думкай аб іх запланавана пабудова Цэнтральнага асяродка для вывучэння і лячэння хвароб, характэрных для старэйшага ўзросту.

(Працяг на стар. 4)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"



## БГКТ ХРОНІКА

■ 11 верасня ў Гайнаўцы адбылося спатканне прадстаўнікоў аддзела БГКТ з прадстаўнікамі паветовага праўлення пажарных каманд. На ім былі абмеркаваны справы, звязаныя з арганізацыяй урачыстасці з нагоды 30-ай гадавіны Войска Польскага. Прынялі ўдзел члены пажарных каманд-удзельнікі ІІ сусветнай вайны. Налічваецца іх у Гайнаўскім павеце 53 асобы і большасць з іх з'яўляецца членамі БГКТ. У гэтым спатканні прынялі ўдзел старшыня ГП БГКТ М. Самоцік і прадстаўнік Ваяводскага праўлення пажарных каманд К. Гурткоўскі.

■ 15 верасня ў Храбалах на Бельшчыне арганізаваўся гурток БГКТ. Старшынёю гуртка выбраны Славамір Хількевіч, сакратаром Раіса Дамброўская і скарбнікам Крыстына Коршак.

■ Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку 15 верасня арганізаваў танцавальную вечарыну, на якой вельмі цікава прайшла „Згадуй-згадуля" на супрацьалкагольныя тэмы.

■ Ян Радзюкевіч з Беластока перадаў у бібліятэку гарадскога аддзела БГКТ 65 кніжак, за што праўленне аддзела шчыра яму дзякуе.

■ 16 верасня ў доме культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку адбылася сустрэча старшыні ГП БГКТ Мікалая Самоціка, старшыні і сакратара паветовага беластоцкага праўлення аддзела БГКТ Янкі Цялушэцкага і Гені Іванюк з мясцовым жаночым харавым калектывам. Старшыня ГП перадаў хору 25 пар ботаў, спецыяльна для яго закупленых.

■ 17 верасня ў памяшканні ГП распачаўся курс акардэаністаў пад кіраўніцтвам Веслава Дзюбінскага. Ёсць яшчэ вольныя месцы. Курс гэты працуе на правах музычнага „агніска".

■ Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку хоча значна павялічыць харавы калектыў, таму цяпер вядзе набор новых удзельнікаў. Мастацкім кіраўніком хору з'яўляецца Марэк Камінскі. Спеўкі адбываюцца па серадах і чацвяргах у 18 гадзін. Гэты ж аддзел пастанавіў таксама ўтварыць вялікі танцавальны калектыў пад кіраўніцтвам Янкі Крупы. Заняткі танцавальнага калектыву адбываюцца ў кожную пятніцу ў 18 гадзін. Любіцелям спеву і танца варта запісацца ў гэтыя калектывы на Варшаўскай 11.

**◊ Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі**


СВЕТ

### СЯБРОЎСКІ ВІЗІТ

Па запрашэнню Цэнтральнага Камітэта Балгарскай камуністычнай партыі Генеральны сакратар ЦК КПСС Леанід Брэжнеў наведаў Народную Рэспубліку Балгарыі.

Указам Дзяржаўнага Савета НРБ Л. Брэжневу прысвоена зорка Героя Народнай Рэспублікі Балгарыі — самая высокая адзнака гэтай краіны.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАБОЧЫХ ОРГАНАЎ

У Жэневе пачаліся пасяджэнні рабочых органаў другога этапа Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Пачалі работу тры камісіі, у якіх удзельнічаюць прадстаўнікі ўсіх 35 дзяржаў — удзельніц нарады .

Асноўная задача камісіі — падрыхтаваць дакументы, рашэнні і рэкамендацыі для трэцяга, заключнага этапа нарады.

### ЗАЯВА АРТЭНСІІ АЛЬЕНДЭ

„Я хачу, каб усе народы свету даведаліся аб крывавых падзеях, якія адбываюцца ў Чылі", — заявіла ўдава прэзідэнта Чылі Артэнсія Бусі дэ Альендэ, якая прыбыла ў Мехіка на самалёце мексіканскай авіякампаніі.

Выступаючы ў аэрапорце на прэс-канферэнцыі для мясцовых і замежных журналістаў, яна рашуча асудзіла дзеянні змоўшчыкаў, адзначыўшы, што „ваенная хунта ўстанавіла рэжым тэрору і насілля, адмяніла дэмакратычныя свабоды і праследуе сотні тысяч сумленных чылійцаў".

### ЗАКАНЧЭННЕ ВІЗІТУ Ў КІТАІ

Закончыўся афіцыяльны візіт у КНР прэзідэнта Францыі Ж. Пампіду. Ён вёў перагаворы з прэм'ерам дзяржаўнага савета КНР Чжоу Энь-лаем, гутарыў з Мао Цзе-дунам.

У час знаходжання французскага прэзідэнта ў КНР пекінская прапаганда ўзмоцніла сваю назойлівую кампанію наконт „гегемоніі дзвюх звышдзяржаў", накіроўваючы, як звычайна, яе вастрыё супраць Савецкага Саюза. Гэтую шуміху Пекін дапаўняў крыкамі аб прамой „савецкай пагрозе", відаць, разлічваючы такім чынам зрабіць адмоўны ўплыў на працэс разрадкі напружанасці ў Еўропе.

Прэзідэнт Ж. Пампіду, выступаючы на прэс-канферэнцыі ў Пекіне, адзначыў, што яго паездка ў Кітай не накіравана „ні супраць Савецкага Саюза, ні супраць якой-небудзь іншай краіны. Мы па-ранейшаму лічым, што палітыка разрадкі напружанасці і дружалюбных адносін, якую мы праводзім у Еўропе, — гэта лепшая палітыка для французаў і для Заходняй Еўропы".

### ФАЛЬСІФІКАЦЫЯ ПРАДУКТАЎ

За фальсіфікацыю прадуктаў харчавання ў Італіі ў мінулым годзе былі асуджаны 5.452 чалавекі, закрыта 69 прадпрыемстваў і канфіскавана 15 тысяч тон фальсіфікаваных прадуктаў: сярод іх 3.900 тон „мясных" кансерваў, 65 мільёнаў літраў „віна".

Нядаўна ў Рыме паліцыя затрымала трох чалавек, якія займаліся наклейваннем на бутэлькі з ахаладжальным напіткам фальшывых этыкетак сусветна вядомага шампанскага „Шандон". (ак)


БССР

### 60 ЦЭНТНЕРАЎ З ГЕКТАРА

Вучоныя Беларускага навукова-даследчага інстытута земляробства пад кіраўніцтвам прафесара М. Д. Міхуна вывелі новы сорт азімага жыта, якое назвалі „белта". Яго прыдатнасць выпрабавалі калгаснікі „Светлага шляху" ў Маладзечанскім раёне. Аказалася, што новы сорт вельмі патрабавальны ў высакаякаснай апрацоўцы зямлі, але затое адплачвае рэкорднымі ўраджаямі. Адна з палявых брыгад калгаса дабілася нават 60 цэнтнераў жыта з гектара. У іншых брыгадах атрымалі ад 45 да 50 цэнтнераў.

### БУЛЬБА

У саўгасе „Рудакова" Віцебскага раёна пад бульбай 360 гектараў. Гэта самае вялікае бульбянае поле на Віцебшчыне. Каб паспяхова сабраць ураджай, з раніцы да позняга вечара працавалі на ім 12 камбайнаў і капалак. Саўгас прадаў ужо дзяржаве звыш 1300 тон адборных клубняў.

### ДЗЕЛЯ ЗДАРОЎЯ

У Бабруйску непадалёк мясцовага шыннага камбіната адкрыта паліклініка. Размясцілася яна ў новым трохпавярховым будынку і з'яўляецца сёмай лячэбнай установай горада. Паліклініка будзе абслугоўваць каля 9 тысяч дарослых пацыентаў і 4 тысячы дзяцей. Яна абсталявана навейшай медыцынскай апаратурай.

### РЫБА

Пачаўся асенні адлоў рыбы ў вадаёмах рыбакамбіната „Белае" Жыткавіцкага раёна. Кожны гектар першага аблоўленага вадаёма даў 15 тон рыбы. Калектыў камбіната вырашыў дадаткова да плана прадаць 120 тон рыбы. Першыя тоны гэтай далікатнай прадукцыі адпраўлены былі ў Маскву, а затым — у Мінск, Гомель і іншыя гарады.

### СТАРАЖЫТНЫ МЛЫН

Стаіць ён на заходнім краі малога замка ў Навагрудку. Мясцовыя старажылы сцвярджаюць, што ў пачатку стагоддзя ён яшчэ працаваў. На адным з камянёў захавалася дата: 1883 год. Мураваны васьміграны будынак стаяў на выгадным у тактычных адносінах месцы, каля старажытнага ўезду ў горад.

Экспедыцыя Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР у час раскопак у гэтым годзе вывучыла фундамент будынка і сумежную тэрыторыю. Аказалася, што на месцы ветранога млына калісьці стаяла мураваная абаронная вежа. Мяркуючы па зробленых унутры знаходках — асколках каменнага ядра і кераміцы, яна была пабудавана ў канцы XIII — пачатку XIV стагоддзяў. Гэта пацвердзілі таксама размеры старадаўняй вырабленай уручную цэглы і сама тэхніка яе кладкі. Знаходкі гавораць аб тым, што вежа зведала ўдары крыжаносцаў, якія ў XIV стагоддзі беспаспяхова асаджалі Навагрудак. Руіны гэтага старажытнага збудавання і сталі матэрыялам для ветранога млына, які нагадвае старадаўнюю баявую вежу. З некаторымі змяненнямі ён дайшоў да нашых дзён.

### У КАРЭЮ

Дзяржаўны ансамбль танца БССР выехаў у Карэйскую Народна-дэмакратычную Рэспубліку, дзе на працягу месяца выступіць на сцэнах лепшых канцэртных залаў. (вр)


ПОЛЬШЧА

### ПАРТЫЙНЫ ЧЫН

Нядзеля 30 верасня — гэта дзень агульнакраёвага партыйнага чыну, які пакажа мабілізуючую сілу партыі ў чакаючых нас заданнях. Дадатковая праца грамадскім чынам праводзіцца ў перыяд падрыхтоўкі да I краёвай партыйнай канферэнцыі — найбольшай падзеі ў жыцці партыі і народу пасля VI З'езду партыі.

### ПОЗНАНСКІ КІРМАШ

У гэтым годзе Міжнародны кірмаш у Познані мадыфікаваны. Падзелены ён быў на два кірмашы: тэхнічны і кансумпцыйны. Гэты, другі, якраз быў на днях адкрыты ў Познані, называецца „Такон—73". Прымае ў ім удзел 1500 фірм з 36 краін Еўропы, Азіі, Афрыкі, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі. На адкрыцці кірмашу прысутнічаў член Палітбюро ЦК ПАРП і прэм'ер ПНР Пётр Ярашэвіч.

### НОВЫ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНЫ ГОД

Адбылося цэнтральнае адкрыццё новага культурна-асветнага года ў Шчэціне. На ўрачыстасць прыехалі дзеячы культуры з усёй краіны. Яны наведалі каштоўны помнік — замак паморскіх князёў. Шчэцін з'яўляецца важным і дынамічным культурным цэнтрам, які вядзе шырокую дзейнасць ва ўсім сваім ваяводстве, таму і быў выбраны месцам сёлетняга цэнтральнага адкрыцця новага культурна-асветнага года.

### ЛЕНІНСКІМІ ШЛЯХАМІ

У Пароніне і Закапаным закончылася вялікая вандроўка дружбы шляхамі Леніна. Гэта было найбольшае дагэтуль турысцкае мерапрыемства ў краіне. Прыняло ў ім удзел 6300 чалавек. На заканчэнні і ўручэнні ўзнагарод пераможцам прысутнічалі госці з савецкага пасольства. Тры галоўныя ўзнагароды атрымалі: гута імя Леніна з Кракава, Гданьская суднабудаўнічая верф імя Леніна і ГСП Цэгельскага з Познані.

### У ВАРШАЎСКІМ ЗАМКУ

На вясну каралеўскі замак будзе ўжо накрыты. Праца пры яго адбудове ідзе спраўна і без перапынкаў. Працуюць тут дэлегацыі і звычайныя прыезжыя ў Варшаву.

### ХІМІЧНЫ КАНГРЭС ЮНЕСКО

У Вроцлаве праводзіў свае працы міжнародны кангрэс ЮНЕСКО, які быў прысвечаны паляпшэнню навучання хіміі. Арганізавалі кангрэс — ЮНЕСКО, Польская Акадэмія навук і Міжнародная унія навуковай і практычнай хіміі. Удзельнічала 300 выдатных вучоных з 58 краін.

### ЭНЕРГЕТЫКА Ў 1980 ГОДЗЕ

Дынамічна развіваецца польская энергетыка. Да 1980 года будуць пабудаваны новыя аб'екты прадукцыі электраэнергіі для краіны і на экспарт. У апошніх гадах наступнай пяцігодкі пачнецца будова першай атамнай электрастанцыі. У бліжэйшыя 7 год распачнецца будова 9 новых электрастанцый, а ў 20 існуючых будуць устаноўлены новыя энергетычныя блокі. Штораз больш гарадоў будзе аграваецца з электрацяплоўняў. (вл)


ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ВК ПАРП

20 верасня адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку. Ацэньвалася праца гмін (за 9 месяцаў іх існавання) і асабліва кіруючая роля ў іх партарганізацыі на чале з гміннымі камітэтамі.

Пленум быў вельмі старанна падрыхтаваны. Яшчэ ў чэрвені быў праведзены кантроль у 19 гмінах (па адной у кожным павеце), а ў жніўні ва ўсіх 133 гмінных камітэтах адбыліся сходы, на якіх абмяркоўваліся вынікі гэтага кантролю. На сходах выступіла ў дыскусіі 900 чалавек. Іменна яны, як падкрэслівалася ў дакладзе, пачалі дыскусію, прадоўжаную на гэтым пленуме.

Пасяджэнне вёў I сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі. Удзельнічалі ў працы пленума член Сакратарыята ЦК і кіраўнік арганізацыйнага аддзела ЦК З. Жандароўскі, член ЦК ПАРП Л. Дэм'янюк, намеснікі членаў ЦК С. Багуцкі і Ул. Лотыш, а таксама сакратары некаторых гмінных камітэтаў і іншыя запрошаныя госці.

З дакладам выступіў II сакратар ВК ПАРП Ул. Юшкевіч. У дакладзе гаварылася аб дасягненнях нашай сельскай гаспадаркі, у чым немалая заслуга гмінных улад і гмінных партарганізацый, давалася характарыстыка працы начальнікаў гмін, іх устаноў, гмінных рад нарадовых і гмінных камітэтаў партыі. Падкрэслівалася ў дакладзе, што гмінныя ўлады ўзмоцніліся і сталі важным элементам у барацьбе за ўсё новае і прагрэсіўнае на вёсцы. Аднак, нямала яшчэ трэба зрабіць. Слабым бокам у працы гмін з'яўляецца, напрыклад, слабы кантакт з выбаршчыкамі. Шмат таксама клопатаў маюць яшчэ начальнікі гмін з каардынацыяй працы ўсіх устаноў, працуючых у гміне. „Кіраўніцтва Ваяводскага камітэта лічыць, — сказаў тав. Юшкевіч, — што гмінныя ўлады не патрабуюць на гэта нейкіх дадатковых праў, бо дадзеныя ім правы дастатковыя. Існуе толькі праблема адпаведнага іх выкарыстання".

Галоўнай умовай добрай працы гміны з'яўляецца моцная гмінная партарганізацыя, моцная як сілай уздзеяння, так і колькасцю членаў і кандыдатаў. Многія гмінныя партарганізацыі прымяняюць новыя формы дзейнасці, напрыклад, выязныя (на вёску) пасяджэнні, адкрытыя сходы з удзелам моладзі і перадавых гаспадароў, а таксама стварэнне груп беспартыйнага актыву.

Пасля дакладу разгарнулася шырокая дыскусія, у час якой выступіў таксама госць на пленуме тав. З. Жандароўскі. Пастанова аб працы гмін будзе прынята на наступным, кастрычніцкім пленарным пасяджэнні, якое таксама будзе прысвечана гэтым справам.

У другім пункце парадку дня выступіў намеснік старшыні Прэзідыума ВРН тав. Ул. Міхалюк, які прадставіў членам пленума ацэнку ходу жніўнай кампаніі і важнейшыя заданні сельскай гаспадаркі ў бліжэйшы перыяд. Жніўная кампанія была ацэнена вельмі добра. Вырашана было, што вынікі і вывады з гэтай кампаніі будуць абмеркаваны ва ўсіх звеннях сельскагаспадарчай службы на вёсцы.

Пленум закончыўся падсумоўваючым выступленнем тав. З. Куроўскага. (яч)




**Niedziela 30.IX.**

7.40 Program dnia. 7.45 TV Kurs Rolniczy. 8.20 „Przypominamy, radzimy". 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 TELEWIZJA DZIEWCZĄT I CHŁOPCÓW. 10.20 „Przez środkową Amerykę" („180.000 kilometrów przygód"). 10.50 Niedzielny Koncert Promenadowy. 11.50 „Radar". 12.00 Dziennik. 12.15 „W starym kinie" — „Zapomniany klown". 13.15 „Spotkanie w Golądkowie" — rep. wiejski. 13.45 „Poezja polska" — „Zwycięstwo" — wiersze Mieczysława Jastruna, Józefa Ozgi-Michalskiego, Adama Ważyka, Leopolda Staffa. 14.00 Losowanie Totolotka. 14.20 „Wypoczynek ludzi pracy". 15.20 „Piosenka dla Ciebie". 16.10 „My — 74" — teleturniej. 17.00 „Przyjąć czy odrzucić". 17.50 „Melodie od Opola". 18.35 „Plac zamkowy" — film dok. TVP. 19.05 „Kryteria". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Dom schadzek" — film ang. („Kuzynka Bietka") odc. II. 21.00 PKF. 21.10 Magazyn sportowy. 21.55 Kabaret Olgi Lipińskiej — „Gallux Show" (wieczór VII).

**Poniedziałek 1.X.**

12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.30 „Echo stadionu". 17.55 TV Kurier Olsztyński. 18.10 „Oferty". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV: M. Lermontow — „Maskarada". 22.25 „Pryzmat". 22.55 Dziennik. 23.10 Wiadomości sportowe.

**Wtorek 2.X.**

8.55 „Mr. Smith jedzie do Waszyngtonu" — film fab. USA. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — G. Zapolska — „Moralność pani Dulskiej". 15.20 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Rodzina Durtolów" — film franc. odc. III. 17.05 „Po dwóch latach w Porcie Północnym" („Morskie spotkania"). 17.40 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.55 Telereklama. 19.00 Cztery pieśni kurpiowskie Karola Szymanowskiego śpiewa Magdalena Falewicz. 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 KINO INTERESUJĄCYCH FILMÓW: „Mr Smith jedzie do Waszyngtonu" — film fab. USA. 22.20 „Jesień w Austrii" — rep. film. 22.50 Dziennik. 23.05 Wiadomości sportowe.

**Środa 3.X.**

10.00 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „O ruchach". 10.30 „Naszyjnik" — nowela film. franc. 11.05 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wychowanie plastyczne — „Malarstwo" cz. II. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 15.50 Program dnia. 15.55 „Spacerkiem po kinach". 16.25 „Informacje-Towary-Propozycje". 16.45 Dziennik. 16.55 Transmisja z meczu o Puchar Klubowych Mistrzów Europy: Stal (Mielec) — Crvena Zvezda (Belgrad). 18.45 „Wolne godziny" — program pop. naukowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Program filmowy. 22.00 „Naszyjnik" — nowela film. franc. 22.30 Dziennik. 22.45 Wiadomości sportowe.

**Czwartek 4.X.**

9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — Homer — „Iliada". 9.40 Powtórzenie meczu piłki nożnej Stal (Mielec) — Crvena Zvezda (Belgrad). 11.10 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — „Tetmajer—Kasprowicz—Staff". 13.30 TV Kurs Informatyki: Systemy powtarzania danych" cz. I. 14.00 Matematyka w szkole: „Klasyfikacja zbioru". 15.20 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 Gra Orkiestra Włościańska Karola Namysłowskiego. 18.15 Telereklama. 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 „Pierwszy? Drugi? Trzeci?" — program Red. Wojskowej. 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr Sensacji: P. Quentin — „To niemożliwe, kochanie" cz. II. 21.15 PKF. 21.25 „Życie w brązie" rep. film. 21.40 „Kodeks drogowy" — program rozr. 22.35 Dziennik. 22.50 Wiadomości sportowe.

**Piątek 5.X.**

9.30 „Wagon master" — film fab. USA. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „W mojej miejscowości". 12.00 Dla szkół: (kl. III) „Wojsko. wojsko...". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 15.20 TV Kurs Przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.25 „Nie tylko dla pań". 17.50 TV Kurier Warszawski. 18.10 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.45 Telereklama. 18.50 „Nauka i światopogląd". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Spotkanie z Mieczysławem Czechowiczem" recital piosenkarski. 20.40 „Panorama". 21.20 Teatr TV: B. Brozowsky — „W zaciszu". 22.20 „Informacje-Towary-Propozycje". 22.40 Dziennik.

**Sobota 6.X.**

9.15 FILMY RENE CLAIRA: „Wielkie manewry" — film fab. franc. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Republika ZAIR". 14.20 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 14.55 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje". 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 Telereklama. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH: Teatr Młodego Widza — A. Korta — „Rozdroże". 17.40 „Z kamerą wśród zwierząt". 18.10 „Turystyka i wypoczynek". 18.35 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Alfabet Rozrywki" — Litera „U". 21.15 FILMY RENE CLAIRA: „Wielkie manewry" — film fab. franc. 23.05 Dziennik. 23.20 Wiadomości sportowe. 23.30 „Canzonissima" — program rozr. włoski.

 

# СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ ВЫСТАЎКА

З нагоды Цэнтральных дажынак, якія адбыліся ў Беластоку, каля стадыёна „Гвардыі“ была адкрыта сельскагаспадарчая выстаўка. Выстаўку наведалі тысячы людзей з усіх куткоў нашай краіны, замежныя госці, моладзь, гаспадары і рабочыя, служачыя. Арганізатары налічылі не менш 250 тысяч наведвальнікаў.

Але не ў гэтым заключалася найважнейшае. Сельскагаспадарчая выстаўка, арганізаваная ў Беластоку, была найпрыгажэйшай з дагэтуляшніх выставак і найбольш функцыянальнай. Нам, беластаччанам, было чым ганарыцца. Сучасная сельская гаспадарка і спажывецкая прамысловасць былі паказаны на фоне нашых беластоцкіх дасягненняў.

На выстаўцы ўсё было цікавае, пачынаючы ад яе размяшчэння — у цэнтры гарадскога лесу, ля сучаснага стадыёна, праз цікавую дэкарацыю і экспазіцыю. Гаспадароў асабліва цікавілі бугаі, вага якіх даходзіла да 1.200 кг, і каровы. Адна з іх, з Залесся, дала больш 7 тысяч літраў малака ў год. Прысутныя тут гаспадары і дакраналіся да ўсяго і дапытваліся пра ўсё. Гэта быў найлепшы ўрок па жывёлагадоўлі.

У іншых павільёнах былі паказаны сельскагаспадарчыя паслугі, спажывецкая прамысловасць, сельскагаспадарчае будаўніцтва, машыны, лясная прамысловасць і іншыя. Тут кожны наглядна пераконваўся, чым славіцца наша беластоцкая спажывецкая прамысловасць, чаго мы дасягнулі, чаго можам дасягнуць, раўняючыся да найлепшых. Гаспадары пыталіся, запісвалі ў блакнотах, дзе што можна купіць і за колькі. У некаторых, асабліва маладых людзей, выстаўка выклікала шок: не спадзяваліся яны, што ўжо такой убачаць беластоцкую сельскую гаспадарку.

Праз дзевяць дзён выстаўка была закрыта. Засталіся выставачныя аб'екты. Што тут мае быць далей — не вырашана. Ёсць шмат прапаноў, напрыклад, каб выкарыстаць усё гэта ў якасці рэкрэацыйнага цэнтра для жыхароў горада. Іншыя прапануюць арганізоўваць тут выстаўкі спажывецкай ці тэрэновай прамысловасці. Рэпарцёры варшаўскай тэлевізіі, якім выстаўка таксама вельмі спадабалася, прапануюць гандлёва-выставачнае мерапрыемства, звязанае з сельскай гаспадаркай — сельскагаспадарчы кірмаш. Прапанова вельмі слушная.

Да тэматыкі з выстаўкі будзем вяртацца ў праблемных артыкулах, а сёння прапануем чытачам фотарэпартаж.

Тэкст і фота **А. Карпюка**



*Агульны від на сектары інвентарнага будаўніцтва і механізацыі.*



*У павільёне паслуг агульнае зацікаўленне выклікалі сучасныя апараты для лячэння жывёлы.*



*Гэта маладыя гаспадары з Алецкага павету. Іх зацікавіў савецкі трактар Т-25.*



*Інтэнсіўныя сарты пшаніцы і жыта захаплялі наведвальнікаў.*




*Вельмі цікавы быў павільён жывёлы.*



*Шасцёра запрэжаных сакольскіх жарабцоў выклікалі захапленне ў наведвальнікаў выстаўкі.*

 



## ПРА ТЫХ, ШТО АБАРАНЯЛІ БЕЛАСТОЧЧЫНУ

Ад трагічнага верасня 1939 года мінула ўжо 34 гады. Здаецца, дастаткова было б гэтага часу, каб пазнаць усе тайны II сусветнай вайны. І сапраўды, пра гітлераўскую агрэсію напісана шмат кніжак. І ў нас, і за межамі нашай краіны. З увагай да верасnёвых дзён 1939 года аднесліся пісьменнікі і рэжысёры фільмаў. Для прыкладу прывядзем тут прозвішчы Путрамента, Жукроўскага і Вайды. Усе гэтыя творы набліжаюць нам вобраз ахвярнасці і геройства польскіх салдат, іх высокі патрыятызм і вернасць сваёй радзіме.

Сярод іх асабліва блізкімі нашаму сэрцу з'яўляюцца тыя кніжкі, якія расказваюць пра абаронцаў нашай роднай Беласточчыны. Тут перш за ўсё трэба пахваліць карпатлівую працу двух беластоцкіх аўтараў: маёра Зыгмунта Каштылы, які з'яўляецца кіраўніком Вайсковага музея ў Беластоку, і рэдактара Кшыштафа Вайтовіча, які працуе загадчыкам эканамічна-грамадскай рэдакцыі Беластоцкага радыё. Яны абодва адкрылі шмат старонак з гісторыі II сусветнай вайны, з той гісторыі, якую салдаты з арламі на шапках пісалі ў акопах, раскінутых на палях і лясах Беласточчыны.

Вось нядаўна выдавецтва Міністэрства нацыянальнай абароны выпусціла ў рамках сваёй папулярнай выдавецкай серыі „З тыграм" другую кніжку К. Вайтовіча, загаловак якой: **„На прапашчай пазіцыі"**. У папярэднім сваім „тыгры" К. Вайтовіч апісваў у асноўным мірныя і баявыя дзеянні Падляшскай брыгады кавалерыі, якая ў першыя дні вайны перайшла ў наступленне і ўварвалася на тэрыторыю гітлераўскай Прусіі, дзе вяла заўзятыя баі, пакуль загадам вышэйшага камандавання не была адклікана ў адступленне. У новым сваім „тыгры" гэты ж аўтар таксама прадстаўляе змаганне з ворагам самастойнай аперацыйнай групы „Нараў", але сваю ўвагу канцэнтруе ён тут на іншым адрэзку баявых яе дзеянняў, а менавіта расказвае пра абарону ўмоцненай лініі на рацэ Нараў у наваколлі мясцовасці Візна, якая знаходзіцца ў Ломжынскім павеце. Яшчэ сёння можна там убачыць старыя абаронныя дзоты. Вайтовіч падае, што гэтая ўзмоцненая абаронная лінія складалася з шасці аграмадных, васьмі малых і двух лёгкіх баявых дзотаў, размешчаных на ўсход ад ракі Бебжа і на абодвух берагах Нарвы. Іх пабудова да 1 верасня 1939 года не была яшчэ закончана, а на дадатак нямецкая разведка паспела ўжо тады сабраць дакладныя звесткі аб размеркаванні гэтых узмоцненых пунктаў абароны.

Польскія салдаты змагаліся геройска. Больш як 10 дзён адбівалі безупынныя атакі агрэсараў. Вось прыклад: у раёне Візны займала абарону 700 польскіх салдат і 20 афіцэраў пад камандаваннем капітана Уладзіслава Рагініса. На іх звалілася 40 тысяч немцаў. Нашы салдаты бараніліся да апошняга патрона. Пад безупынным агнём артылерыі, танкаў і цяжкіх бомбаў, 10 верасня бранясосныя часці генерала Гудэр'яна яшчэ раз спрабавалі праврваць узмоцненую лінію. Астаўшыеся ў жывых польскія салдаты не мелі ўжо чым адбіваць атакі. Капітан Рагініс загадаў ім выйсці з дзота, а сам застрэліўся. У той жа дзень заўзятыя баі ішлі за Ломжу і Навагруд. „Амаль кожны парог спаленых ужо дамоў, — піша Вайтовіч, — бароняць салдаты маёра Сікоры. Цяжка ім пагібаць на прапашчай пазіцыі, асабліва ў гэты дзень, калі прыгожа свеціць сонца і плыве серабрыстая стужка Нарвы".

Капітан Рагініс, капітан Кард'ячынскі, паручнік Яжына, паручнік Тарчаловіч і іншыя афіцэры ды радавыя салдаты, найчасцей безіменныя, засталіся на палях баёў у раёне Ломжы. Віліся да апошняга дыхання. Ахвярнасць і геройства. На кожным кроку. Выконвалі ўсе загады. Толькі гэтыя загады часта былі супярэчлівымі. З кнігі Вайтовіча вынікае, што вышэйшае камандаванне не мела яснага плана абароны, а ў час ваенных дзеянняў супярэчлівымі загадамі толькі паглыбляла крытычнае становішча абаронцаў Беласточчыны.

„У 1969 годзе, з нагоды 30-ай гадавіны польскай абароннай вайны, — піша К. Вайтовіч, — Рада Дзяржавы ПНР многім яе ўдзельнікам прысвоіла высокія баявыя адзнакі. Сярод узнагароджаных апынуліся таксама салдаты праслаўленай 18-ай дывізіі пяхоты і 33-га палка курпёўскіх стралкоў".

Баявы сцяг гэтага палка знаходзіцца сёння ў Музеі Войска Польскага ў Варшаве.

Асноўная вартасць кніжкі „На прапашчай пазіцыі" заключаецца ў тым, што яна запаўняе яшчэ адну малавядомую карту нашай гісторыі, а маладому пасляваеннаму пакаленню паказвае, як трэба шанаваць сваю радзіму.

**В. Рудчык**

---

Пры гэтым змушае яго безупынна гуляць у карты. Максімку надаела гэта гульня і ён просіць перадаць паненцы, што не прыдзе гуляць, бо памёр. Паненка схацела ўбачыць памёршага. Прыйшлося легчы і прыкідвацца мёртвым. Гэты момант моцна ўздзейнічаў на паненку, што яна ўмірае, а Максімка прахварэў доўгі час.

Апавяданне складаецца як бы з дзвюх частак: першай — апісальнай, звязанай з панам, селянінам і паўстаннем, другой, тыпова псіхалагічнай, звязанай з паненкай і Максімкам. У першай частцы, несумненна, праявілася народніцка-шляхецкая ідэалогія пісьменніка. Кроўнае адзінства селяніна і пана не змяшчалася ў нашаніўскай ідэалогіі. А якраз яно дамінуе ў „Жывым нябожчыку". Другая частка мае характар псіхалагічнай балады ў прозе. Гаворыцца ў ёй аб нязвыклым паталагічным здарэнні. Забава прывяла да драмы — вось істота-пуэнта апавядання. Ідэя твора непаслядоўная. З аднаго боку, аўтар, паказваючы адносіны пана да селяніна, як бы гаворыць: глядзіце, якія добрыя паны. З другога, аднак, боку, паказваючы азартна гуляючую ў карты паненку, як бы гаворыць: глядзіце, якія ненармальныя, здзівачэлыя паны!

---

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

## ЧАРНУШНАЯ*




*Пожэну волікі ў Попэліе** ранэнько,*
*Напасу волікі, як бочкі, кругленькі.*
*Напасу волікі, як бочкі, кругленькі.*
*Волы, мое волы, нэ рано я встала —*
*Волы нэ пуд'іелі, а я нэдоспала.*
*Волы нэ пуд'іелі, а я нэдоспала.*
*Волы нэ пуд'іелі — комарыэ кусалі,*
*А я нэдоспала — хлопці докучалі.*
*А я нэдоспала — хлопці докучалі.*
*Волы нэ пуд'іелі, бо трава малая.*
*А я нэдоспала, бо йшчэ молодая.*
*А я нэдоспала, бо йшчэ молодая.*

Ад Анны Стахвіюк, 1924 года нараджэння, вёска Трасцянка Гайнаўскага павету, запісаў 2 жніўня 1973 года Мікалай Гайдук. Ноты запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

* «Чарнухаю» калісьці ў Трасцянцы называлі час, калі сяляне аралі «ў загон», г. зн. пад пасеў азімагажыта.
** Попэліе — паша, выган каля Трасцянкі.

---

## ЛІСТ 3 Задрыпанкі

# ВЫБІЛАСЯ

Дзівоснае жыццё наша. Мая Гапка стала дзеячом культуры. І то якім! Амаль штотыдня ў павет клічуць.

— Гапка, ты ж у гэтай культуры нічога не кеміш, — сказаў я ёй па шчырасці.

— А тут кеміць зусім не трэба, — адказала яна і паглядзела на мяне так, быццам я быў цёмны-цёмны.

— Як жа гэта? — здзівіўся я.

— А вось гэтак, — выставіла язык.

— Дык усюды трэба на нечым знацца, — не здаваўся я.

— У культуры неабавязкова, — засупярэчыла яна. — Тут перш за ўсё трэба рабіць добрае ўражанне.

Аргумент быў важкі і я падняў рукі ўгору. Чым чорт не жартуе, яшчэ мая Гапка і слаўнай стане. А колькі грэюцца пры чужой славе. А тут, як ні кажы, свая, жончына.

Мае высакародныя хвалявані яшчэ вышэй узняліся, калі Гапка аб'явіла, што клічуць яе на ваяводскую нараду. Клікалі аднак не на нараду, а на юбілей важнай культурнай установы. Але гэта значэння не мяняла, нават больш — прыдавала Гапцы бляску. На юбілеі тыя больш выбраныя ходзяць.

Запрашэнне было на дзве асобы і, вядома, мне выпаў гонар суправаджаць прадстаўніка задрыпанскага грамадства на ваяводскую асамблею.

Урачыстасць адбывалася ва ўтульнай кавярні. Народ зышоўся выцацканы. Аж нямёка было. Каб не наступіць каму на туфелькі. Каб не штурхнуць каго знячэўку локцем. А тут яшчэ Гапка цягне ў самую гушчу, бліжэй начальства. Ледзь угаварыў уладкавацца ў куточку.

Сядзім адны за столікам. Спераду выступаюць прамоўцы. Лаўлю іх палкія словы і прыкмячаю, што ніхто выступаючых не слухае. Усе заняты нечым сваім. І камянею: Гапка мая стрыжэ па баках вачыма. Да ўсіх, хто па нейкай прычыне адвернецца ад свайго століка.

„Вось ты якая птушка!" — чырванею з сораму. А яна, загаварваючы мне зубы, усё стрыжэ вачыма па баках.

Урэшце ад суседняга століка адліпае нейкі заморак і падсядае да нас.

— Вы такая сімпатычная, што не мог стрываць, — прыстае, нахабнік, да Гапкі.

А яна цвіце.

— Вельмі цешуся, — шчабеча.

— Вы тут такая іншая, — насядае той.

„Ну і ты ўдаўся, — думаю я, — такой малпы яшчэ не бачыў".

А Гапка расплываецца, быццам усё жыццё марыла аб гэтым здыхляку.

Раптам успамінаю словы яе: „у культуры перш за ўсё трэба рабіць добрае ўражанне". Значыць, яна знарок какетнічае перад ім, каб той не зьмяніў тэмы, баіцца выдаць сябе. Але заморак, вычарпаўшы не багаты, як аказалася, запас гарадскога словаблудства, загаварыў аб юбілеі. Тут Гапка, каб не адстаць ад іншых, прапанавала напоўніць кілішкі. Хацела, відаць, сказаць, мудрагелісты тост, бо калі ўстала з напоўненым кілішкам, твар яе зрабіўся сур'ёзным, здавалася, ад наплыву думак. Здзівіла Гапка аднак не глыбінёй выказвання. Працягнула яна кілішак да прышыванца і сказала:

— Каб не апошні.

Той выпуліў вочы, але чокнуўся і выпіў. Потым тут жа знік.

— Нат не развітаўся, — не магла зразумець Гапка.

Неўзабаве і мы, з горыччу на сэрцы, адправіліся ў сваю Задрыпанку.

**Ваш Даніла**

---

*Этнаграфічная аленца*



*У ваколіцах вёскі Мацейкава Гара Беластоцкага павету.*

*Фота — М. Гайдук*

---

## У ГОСЦІ ДА СУСЕДЗЯЎ

# ЭКСТРА...

Мы едзем, едзем, едзем... у бок Валкавыска, у раённы цэнтр, што ляжыць над рэчкай Зэльвянкай. Едзем не аўтобусам, не цягніком, а на таксі. Таксоўкі ў Беларусі настолькі танныя, што выбіраючыся ўсёй сям'ёй, няма сэнсу таўчыся іншым транспартам.

Навязваю гутарку з шафёрам. Ведаючы пры тым гасціннасць маіх сваякоў і знаёмых, спецыяльна закранаю так зв. „бутэлечнае пытанне". Праходжу, так сказаць, „сухую падрыхтоўку" перад чакаючым мяне пачастункам.

Для нікога не тайна, што п'янства ў шматлікіх дзяржавах з'яўляецца сур'ёзнай грамадскай праблемай. У сувязі з тым, што ў СССР толькі пяць працоўных дзён у тыдзень і людзі маюць больш свабоднага часу, „піць ці не піць", амаль шэкспіраўскае пытанне, выступіла тут вельмі выразна.

І вось дзяржава вырашыла „не піць", альбо піць у меру і нізкаалкагольныя напіткі.

Для нікога аднак таксама не тайна, што прадукцыя спіртнога прыносіць дзяржаве немалы даход. Нягледзячы на гэта, у СССР рэзка абмежавалі продаж алкаголю. Метад найлепшы. Дазволіць сабе на яго можа аднак толькі багатае грамадства.

Не абмежаваліся тут толькі павышэннем цаны ўсіх гатункаў гарэлак ды каньякоў. Скарацілі гадзіны продажу (ад 11 да 19). Пры тым папулярныя, танныя гатункі, як „Зверабой", „Белавежская", „Зуброўка" і іншыя, пачалі пастаўляць у крамы ў абмежаваных колькасцях. Раз на нейкі час. Віна затое і лікёраў выбар вельмі вялікі і каштуюць яны надта танна.

Нягледзячы на тое, што гэту апетытную дыскусію мы вялі, так сказаць, „без закускі", па ўтульнай „Волзе" так і насіліся высокапрацэнтныя назвы. За вокнамі замест дарожных слупоў мільгалі здаецца, каляровыя этыкеткі.

Падчас „кансультацыі" аднаго з новых, даражэйшых гатункаў, названага „Экстра", мой субяседнік выявіў і заключаную ў гэтай назве мараль. „Эх, как стало тяжело русскому алкоголику" — тлумачаць яе па рускую мову.

Яно і праўда. Пры тым яно і вельмі добра ды карысна для грамадства.

Таму і мы сустрэчу са сваякамі ды знаёмымі адсвяткавалі адным шампанскім. Коркі стралялі рэдка, жарты сыпаліся густа. Калі што і лілося ракою, дык гэта песні. Калі мяне хто спытае, як мы гасцявалі, адкажу: адмыслова, адным словам „экстра".

**Ларс**

## З эпісталярнай спадчыны

# СЫРАКОМЛІ



Шукаючы ў Вільнюсе некаторых біяграфічных матэрыялаў польска-беларускага паэта Уладзіслава Сыракомлі (Людвіка Кандратовіча), якія ў сярэдзіне мінулага стагоддзя публікаваліся ў перыёдыцы, я не ўтрываў, каб не заглянуць і ў рукапісны аддзел Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР. У розных фондах тут захоўваюцца аўтографы і рукапісы асобных твораў паэта, а таксама якаясьці частка ягонай эпісталярнай спадчыны. Сыракомлеўскія матэрыялы, што аселі ў гэтым аддзеле, як быццам усе ўжо вядомы і ўведзены ў навуковы ўжытак беларускімі даследчыкамі. Не так даўно мне таксама давялося іх праглядаць. Але ж ці ўсё магло трапіць на вока?

І вось у выніку працяглага калупання ў картатэцы, якое час ад часу перапынялася пытаннямі да супрацоўнікаў наконт тлумачэння таго ці іншага літоўскага слова, наткнуўся ў 273 фондзе на нешта, здаецца, цікавае. Два пісьмы Сыракомлі. Невядомыя!

Першае адрасавана Зыгмунту Заштоўту (у Мінск). Пра адрасата Сыракомлі, акрамя прозвішча і імя, мы ведаем няшмат. Толькі тое, што быў ён саветнікам Мінскага губернскага праўлення, спрабаваў пісаць, разы два друкаваўся ў старэйшай краёвай газеце „Kurjer Wileński". Адна карэспандэнцыя Заштоўта, змешчаная на старонках „Кур'ера" 9 лістапада 1862 года за подпісам „Z.Z.", была напісана ў сувязі са смерцю Сыракомлі. У ёй расказвалася пра ўшанаванне памяці славутага земляка ў Мінску.

Аднак вернемся да пісьма Сыракомлі. Было напісана яно ў Вільні 24 сакавіка 1859 года. На пачатку паэт шчыра дзякуе Заштоўту за пасланы артыкул пра Мінск. „Niezmiernie są ważnemi kartkami dla historyi, — піша Сыракомля, — te drobne, na pierwszy rzut oka efemeryczne, sprawozdania z towarzyskiego życia pewnego miasta; zbieram je z różnych miast i od lat kilku".
Дарэчы будзе сказаць, што дагэтуль, у 1857 годзе, часопіс „Teka Wileńska" апублікаваў вялікі гісторыка-краязнаўчы нарыс паэта „Mińsk", але, як відаць з пісьма, Сыракомля працягваў назапашваць звесткі пра розныя праявы жыцця краю і добра вядомага яму Мінска, каб дапоўніць ужо зробленае.

Цікава, што ў пісьме Сыракомля імкнецца растлумачыць Заштоўту свае патрыятычныя пачуцці. Справа ў тым, што паэт жыў тады ў падвіленскай Барэйкаўшчыне і з Вільняю меў пастаянныя і самыя непасрэдныя зносіны, а ў Мінску бываў толькі наездамі. Таму Заштоўту мусібыць, здавалася, што, пасылаючы „вясковаму лірніку" свае мінскія матэрыялы, ён вымагае ад таго большай увагі да Мінска на шкоду Вільні. Сваімі сумненнямі Заштоўт напэўна не прамінуў падзяліцца з паэтам. Гэта выклікала наступнае прызнанне Сыракомлі:

„Ja miałbym się gniewać że mię posądzasz Pan o predylekcyę dla Mińska kosztem Wilna? Mińsk kocham jako stolicę prowincyi w której się urodziłem, Wilno jak stolicę mojego kraju, nieumiem odróżnić tego jednego od drugiego kochania. Zresztą polemika o to, kto więcej kraj kocha, do złych następstw doprowadzić niemoże. Jeśliby mnie kazano koniecznie się na Pana gniewać, i pozwolono nałożyć karę, tobym ukarał Go żądaniem przysłania mi **wszystkich** (падкрэслена Сыракомлем — У.М.) swoich o Mińsku artykułów."

Завяршаючы пісьмо, Сыракомля просіць свайго карэспандэнта шырэй пісаць пра мінскі тэатр, а таксама ўказвае на неабходнасць асвойвання тутэйшых актораў „z krytyką dramatyczną, aby sobie nielekce ważyli publiczności i poczuli godność swojego powołania. Ён адзначае, што „teatr w kwestyi narodowej ważną stanowi missyę".

А цяпер — пра другое пісьмо, пэўней, запіску, што пасылалася вядомаму этнографу, выдаўцу-рэдактару газеты „Kurjer Wileński" Адаму Кіркору. У ёй Сыракомля высвятляе некаторыя непаразуменні, узнікшыя пры публікацыі ў „Кур'еры" свайго артыкула, прысвечанага памяці мастака Вінцэнта Дмахоўскага, ураджэнца Ашмянскага павету. Вось поўны змест запіскі:

„Widzę kochany Adamie jak się gniewasz i zżymasz żem się tak rozpisał o Dmochow (skim). Rzecz wyrosła pod ręką. Zdawało mi się nie można było zimną zbyć wzmianką człowieka krajowego, człowieka z którym zjedliśmy beczkę soli a który niemiał innych wad — tylko brak pieniędzy. Przebacz mi proszę a już drukuj jak jest, nawet dobrze by nie rozbijać artykułu na dwa Nr. Twój Ludwik".

2 сакавіка 1862 года, на дзесяты дзень пасля смерці В. Дмахоўскага, артыкул быў надрукаваны ў газеце. Прачулае слова пра таленавітага мастака, многія карціны якога ўвекавечвалі самотныя закуткі Беларусі, было данесена да землякоў, як хацеў таго „вясковы лірнік".

**Уладзімір Мархель**

## Куток практычных ведаў




### АСЕННІЯ КАСЦЮМЫ

Восенню і зімой мы купляем звычайна вопратку даражэйшую, якая служыць нам даўжэй, чым танныя летнія сукенкі. Таму трэба добра прадумаць, якія новыя рэчы мы хочам купіць, старанна падбіраючы іх да таго, што ёсць ужо ў нашым гардэробе.

Каб жанчына была апранута добра і элегантна, не абавязкова мець шмат вопраткі. Вельмі істотнай яе часткай з'яўляецца так званая база: спаднічка ці доўгія штаны. Найлепш, калі яны маюць універсальны колер, тады да іх лёгка можна падабраць адпаведную верхнюю частку.

Вельмі модныя цяпер жакеты (асабліва ў клетку, як на нашым здымку). Добры касцюм — гэта наогул класічная вопратка на сухія асеннія дні. Калі аздобіць яго прыгожай, адпаведнага колеру блузачкай і пад шыяй завязаць лёгкую каляровую хустачку, жанчына будзе выглядаць прыгожа, свежа і молада.

Неабходна заўсёды памятаць аб падборцы колераў. Вельмі элегантна выглядае супастаўленне карычневага і бежавага колераў. Модным далей з'яўляецца і цёмнасіні колер. Да ўсіх гэтых колераў можна дадаваць светлазялёны, ружовы, жоўты, аранжавы, ну, і, зразумела, белы.

**Сяброўка**





Д. МАРОЗАЎ




Праз паўгадзіны паступіла новая радыёграма „Цыклона".

— Вось цяпер гэта падобна на стыль Шварцбрука! — усклікнуў Лібель, падаючы бланк Мельцару.

„Цыклон распаўсюджваецца. Першая зводка будзе дадзена заўтра раніцай".

Падпалкоўнік узяў тэлефонную трубку.

— Гэта падпалкоўнік Мельцар з абвера, злучыце мяне з генералам Крэбсам. — Прыкрыўшы рукой трубку, ён сказаў Лібелю: — на гэты раз першым далажу я, а не Клец. — І, падцягнуўшыся, адрапартаваў у тэлефонную трубку: — Дакладвае падпалкоўнік Мельцар, пан генерал. „Цыклон" распаўсюджваецца". Першая зводка будзе атрымана заўтра раніцай... Дзякую вам, пан генерал!

Лібель з вялікай цяжкасцю давёў машыну ад радыёстанцыі да Берліна. На набярэжнай Тырпіц, ля штаб-кватэры абвера ён высадзіў Мельцара, а сам паехаў дамоў. Што адбываецца цяпер там, у Мішэля? „Цыклон-Поўдзень" не павінен праваліцца адразу ж. Калі група знікне, гэта выкліча сур'ёзнае падазрэнне. З другога боку, становішча Мішэля ў групе таксама рызыкоўнае. Адно толькі супакойвала Карла Лібеля: у Мішэля побач сябры. Яны дапамогуць.

Лібель прыехаў дамоў, лёг у пасцель і намаганнем волі прымусіў сябе заснуць. Невядома, што яшчэ наперадзе. Трэба быць свежым, гатовым да ўсяго. За доўгія гады работы ў варожым тыле ён прывык кіраваць сваімі пачуццямі.

А на далёкім хутары ў Прыкарпацці ў гэты час падзеі набывалі новы паварот.

У той момант, калі пачуўся крык, Мішэль ліхаманкава абдумваў свой наступны крок. Гэты Кругер з тых галаварэзаў, хто можа ў любую мінуту выпусціць у яго абойму свайго „вальтэра".

Напружанне расло. Выручыў Скляны. Ён уварваўся ў хату з шыфроўкай. Расшыфраваўшы радыёграму Цэнтра, Кругер, усміхаючыся, спытаў у Мішэля:

— Прашу прабачэння, пан обер-лейтэнант, ці не маеце вы дачынення да групенфюрэра*) пана Эрнста Боле?

— Я яго блізкі сваяк, — суха адказаў Мішэль.

— Вам ужо даводзілася бываць у Расіі?

— Вядома!

— У такім разе, я вельмі рады нашаму знаёмству. І яшчэ раз прашу прабачэння за няласкавую сустрэчу.

— Глупства, служба перш за ўсё. Аднак хто гэта там крычыць?

— Гэта гаспадыня хутара, старая, мы замкнулі яе ў сутарэнні. Іван, я ж загадаў табе яе ліквідаваць!

— Мінутку, лейтэнант, цяпер камандаваць буду я. Старая можа нам яшчэ спатрэбіцца. Іван, прывядзі яе сюды. Спадзяюся, вы не гаварылі пры ёй панямецку?

— Я яе нават не бачыў, — адказаў Кругер.

„Старая" аказалася жанчынай гадоў каля пяцідзесяці. На ёй быў той самы кажух, які яна пазычала некалькі гадзін назад Скляному. Убачыўшы людзей у савецкай ваеннай форме, яна адразу загаварыла.

— Дзе ж гэта відна, паны афіцэры, каб запіраць людзей у сутарэнне. Змей! — Яна пагразіла кулаком Скляному. — Дэзерцір праклятты. Дабраліся да цябе!

Мішэль засмяяўся.

— Наш таварыш зрабіў, вядома, няправільна. Але ён не дэзерцір, грамадзянка. Вы што, адна тут жывеце?

— Зусім адна, — адказала жанчына, — мужа ў сорак першым годзе забралі ў армію. Два сыны было. Адзін у партызаны пайшоў, другі — не ведаю куды. — Яна змоўкла, апусціўшы вочы.

— Ён служыў у паліцыі? — спытаў Кругер.

— Хто ж яго ведае, дзе ён служыў. Паўгода ўжо няма. Адна з гаспадаркай упраўляюся. Ды і гаспадаркі засталося: карова, конь ды куры.

— Не так дрэнна для гэтага часу, — сказаў Мішэль. — Вы хочаце, каб муж і сыны вярнуліся?

— А як жа не хацець?

— Тады трэба дапамагчы нам. Вы павінны запрэгчы каня і праводзіць нас да станцыі.

— Няма такога права, каб коней адбіраць, — закрычала жанчына.

— Мы не адбіраем. Вы паедзеце з намі, — спакойна і настойліва сказаў Мішэль. — А са станцыі возьмеце каня назад.

— Не паеду, хоць страляйце не паеду.

Кругер падняў пісталет. Але „обер-лейтэнант Боле" затрымаў яго.

— Зразумейце, грамадзянка, ваш муж і сын савецкія салдаты, ваш абавязак дапамагчы нам.

Жанчына пастаяла моўчкі, потым слёзы пацяклі ў яе па шчоках. Яна павярнулася і, выціраючы вочы канцом хусткі, пайшла запрагаць каня.

*) Групенфюрэр — генерал-лейтэнант СС Эрнст Боле — адзін з кіраўнікоў СС гітлераўскага рэйха.

**(Працяг будзе)**

# БЕЛАЯ СПІНА

Чалавек я спакойны, ураўнаважаны, але люблю пажартаваць. Далікатна, вядома. Падыйду да каго-небудзь, і так, між іншым, скажу: „У вас спіна белая". Тут ён пачынае круціцца, абтрэсвацца, а на спіне нічога няма. Смех дый годзе.

Іду нядаўна вуліцаю, спераду — нейкі мужчына. Я яму:

— Грамадзянін, у вас спіна белая!

Ніякай рэакцыі. Я зноў:

— Грамадзянін, у вас спіна белая.

Ён спыняецца.

— Хто гэта вам сказаў?

— Ніхто, — адказваю я, — сам бачу.

— Чаго ж стаіце? Абтрасіце мяне.

Там нечага абтрэсваць...

— Дык вы ж сказалі, што спіна белая.

— Гэта я пажартаваў.

— Вы не маглі, ні села ні ўпала, сказаць, што ў мяне спіна белая. Мабыць, там нешта ёсць.

— Нічога няма, — адказваю я.

— Нават рубчыка няма?

— Якога рубчыка?

— На плашчы.

— Ёсць рубчык, — кажу.

— А вы сказалі — нічога няма.

— Я меў на ўвазе — нічога белага.

— Гэта зразумела. У мяне плашч чорны.

— Дык вы ж маглі прытуліцца да якой-небудзь сценкі, — кажу я.

— Да якой?

— Ну скажам, да гэтай, — паказваю на будынак.

— Дык тут жа жоўтая фарба, — тлумачыць ён, — вось і спіна стала б жоўтай. А вы сказалі — белая.

— Чорная ў рубчык! — гнеўна крычу я і кідаюся на другі бок вуліцы.

— Грамадзянін! — крычыць мне ён. — А чаго гэта ў вас твар пабялеў?

Так я яму і паверыў!

Ведаю я гэтыя жарты!

**Уладзімір Цюрый**

Чаго ў спорце не бывае!

# НІЎКА

Адцягваючы манеўр.

## Пераборлівы Лявон

Заляцаўся ён да Любы,
Не павёў аднак да шлюбу.
Абяцанні сыпаў Валі,
Ды спылылі яны, як хвалі.

Пакруціўся ля Алёнкі
І не ўзяў таксама ў жонкі.
Ці ў Мальвіны, ці то ў Ганны
Ён шукаў заўжды заганы:

Люба — трошкі таўставата,
Валя — тварам драбнавата,

А ў Алёнкі — голас тонкі,
Вера — сціплая не ў меру,

У Мальвінкі —
Нос бульбінкай,
Свет вялікі, пахаджу,
Пашукаю, пагляджу...

Час ішоў, гады ляцелі,
А спатканні ўсё радзелі.
Рады быў вярнуцца зноўку
Да былой сваёй сяброўкі.

Той жа дом... Нібы праз сон
Адчыніў ён браму...
— Люба, гэта я, Лявон...
Ты не выйшла замуж?
— Эх, Лявон! Дачку сваю
Я ў нядзельку выдаю...
— Можа скажаш, як там Валя?
— На вячэру ўчора звала:
Сын у армію ідзе...
Ёсць яшчэ дачушкі дзве.
Як твая, Лявон, сямейка?
Пастарэў ты, сумны нейкі...
— Эх, нічога не пытай!
Што зайшоў — прабач...
Бывай!

Адгарэла маладосць
Веснаю заранкай.
Шмат былых каханак ёсць,
Ды няма прыстанку...

**Мікола Чарняўскі**

## ГУМАР З ...

### ЗВЫЧКА

Прынёс аднойчы мужык у воласць падатак. Здаў пісару, а пісар давай лічыць. Лічыць, а сам непрыкметна чырвонца ў кішэню хап! Ды падае селяніну грошы назад:

— На, не хапае чырвонца!

— Як гэта не хапае? — кажа селянін. — Усе поўнасцю там. Пералічыце яшчэ раз.

— Бяры, дурню, слухай, што табе кажуць, і дадавай яшчэ чырвонца, бо як яшчэ раз пералічу, дык і другога чырвонца не стане. Сваю звычку я ўжо ведаю!

...Ён знаходзіўся на вышыні: жыў на сёмым паверсе.

...Ён меў дар пераўвасаблення: перад сябрамі прыкідваўся Дон-Жуанам, перад жонкаю — Атэла.

### САМЫ ВЫСОКІ РАНГ

У поездзе пасол і епіскап паспрачаліся, у каго з іх больш высокі ранг.

— Мяне тытулуюць „Ваша правасхадзіцельства", — даказваў пасол.

— А мяне „Ваша прасвяшчэнства", — парыраваў епіскап.

Каміваяжор, які сядзеў з імі ў адным купэ, сказаў:

— З нас траіх самы высокі ранг у мяне. Калі я падыходжу да пакупніка, ён сустракае мяне словамі: „Божа мой! Зноў вы!"

### БЯДА

— Марыя! — крычыць суседка суседцы. — Вашы трое сыноў зноў забраліся на маю яблыню.

— Ох, бяда! — усклікнула суседка. — А дзе ж мой чацверты?

### ДЗЕ ЛОГІКА?

Жонка лае мужа:

— П'яніца няшчасны. Каб не ты, мне б галава не балела.

Тут падыйшоў Кіндзюліс і спытаў:

— Чаму няшчасны? П'е ён, а галава ж баліць у вас.

### У ГАЛАВЕ — НЕ ТОЕ

— Тату, ты можаш мне расказаць, як функцыянуе мозг?

— Дай мне спакой, хлопча. У мяне ў галаве зусім іншыя рэчы...

## МІНІБАЙКІ

### ПА ДАРВІНУ

Удаў праглынуў малпу.

— Натуральна, — сказаў бы Дарвін, — барацьба за існаванне.

А між іншым, з малпы яшчэ мог бы атрымацца чалавек.

### КРОПКІ НАД „і"

Муха папівала мядок і разважала:

— Пчала, вядома, працавітая, але які ў яе інтэлект? Іншая справа — я. Пагляздзіце на столь: гэта я паставіла ўсе кропкі над „і".

**М. Азаў, У. Ціхвінскі**

— Як жадаеце?
— Пад Сафі Ларэн!...

— Тату, а колькі карова мае конскіх сіл?

### СКЕПТЫК

На манеж цырка выходзіць утаймавальнік з сабачкам і кошкай. Кошка ўстае на заднія лапы і пачынае спяваць на манер шансанеткі, сабака акампаніруе на малюсенькім раялі.

Публіка прыходзіць у захапленне. Толькі адзін глядач з нудным відам шэпча суседу:

— Усё гэта падман. Кошка зусім не ўмее спяваць, толькі раскрывае зяпу.

— У такім выпадку адкуль голас?

— Сабака — чэрававяшчальнік.

— Пакажы язык!

— Мама мне сказала, што гэта непрыстойна.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ірэны Сцепанюк з Агароднікаў Гайнаўскага павету змяшчаем песню

**CZTERY PORY ROKU**

Lato jagód lipcowy ma smak,
Żółte liście gna jesienią wiatr,
Wiosną śniegi spływają z gór,
A na szybach zimą kwitnie mróz.

A ja lubię mroźną zimę i puszysty śnieg,
Kocham narty, dla mnie zima najpiękniejsza jest.

Ktoś tam lubi zimowy zły wiatr,
Kiedy rzeki już pokrywa kra,
Drugi woli przed siebie wciąż iść,
Gdy jesienią czerwienieje liść.

A ja lubię tylko lato wśród słonecznych plaż,
Lubię pływać, dla mnie lato najpiękniejsze jest.

Jeden lubi, gdy wiosną ze snu
Znów się budzi rzek wezbranych nurt,
Inny woli lipcowy dni blask,
Kiedy miodem pachnie cały las.

A ja lubię wszystkie cztery pory roku, bo każda z nich
Wiosna, lato, jesień, zima przypomina mi ciebie.

## КУРЁЗЫ

### ПІШЫ САМ НА СЯБЕ СКАРГУ...

У цэнтры Гамбурга сярод белага дня грабежнікі ўзламалі кватэру Ганса Броера. Сам ён у гэты момант на другім канцы горада чытаў публічную лекцыю на тэму: „Меры і сродкі папярэджання і прадухілення ўзломаў і крадзяжоў".

Паколькі Ханс Броер не хто іншы, як начальнік гамбургскай паліцыі, узнікае пытанне: каму ён будзе цяпер скардзіцца на грабежнікаў?

### У ЗАХАПЛЕННІ АД ХАКЕЯ

Сары Алэн — 75 гадоў. У лістападзе будучага года яна адсвяткуе своеасаблівы паўвекавы юбілей: пачынаючы з 1924 года, яна наведвае хакейныя матчы ў родным Манрэалі. За апошнія 27 гадоў яна не прапусціла ні адной гульні.

Закаранелая „балельшчыца" пабачыла нямала пакаленняў вядомых канадскіх хакеістаў.

Хакей — маніякальнае захапленне гэтай адзінокай жанчыны, якое паглынае немалую долю яе сціплай пенсіі. „Калі б у мяне быў муж, — усміхаючыся, сказала Сара Алэн рэпарцёру, — ён бы прыбіў мяне да смерці, падлічыўшы аднойчы, якую процьму грошай я патраціла на білеты".

### ЖАНЧЫНЫ І СТАТЫСТЫКА

Паводле статыстычных даных ФБР, колькасць забойстваў, узброеных грабяжоў і іншых злачынстваў, зробленых у ЗША жанчынамі, з 1966 па 1971 год павялічылася на 80 працэнтаў, а колькасць злачынстваў, зробленых мужчынамі, павялічылася за той жа перыяд на 35 працэнтаў. Толькі за адзін 1971 год колькасць забойстваў, зробленых жанчынамі, павялічылася на 25 працэнтаў, нападаў з мэтай грабяжу — на 19 працэнтаў.

## Міжы намі

Бываюць сітуацыі, калі дужыя не павінны ўступаць сваё месца слабым.